№ 28. Ausgabe B.

# ГОМАН

Цэна с перэсылкай і дастаукай да хаты:

на 1 год—4 м. 80 фэн., на 1/2 году—2 м. 40 ф:, на 3 месяцы—1 м. 20 ф., на 1 мес.—40 фэн.

Беларуская Віленская часопісь

выходзіць два разы у тыдзень: у аўторкі і пятніцы.

Адрэс рэдакції: Вільня, Завальная 7.
Адрэс адміністрації і экспэдыції:
М. Стэфанская 23.

Цэна абвестак:

на 4-ай старане за радок дробнымі літэрамі—25 фэніг.; дробные абвесткі—па 5 фэн за слова. Абвесткі аб сьмерці—60 фэн. за лінейку дробн. друкам.

№ 28 (120). Год II. Вільня, 6 красавіка 1917 г. Цэна 5 фэн. (3 кап.).

## ВАШЫНГТОН (Рэутэр. В. Т. Б.) 5.IV. Сэнат прыняў 82 галасамі проці 6 рэзолюцію, каторая аб'яуляе стан вайны.

### 5 красавіка.

**Заходні тэатр:**

Далей трывала вострая артылерыйская бітва між Ленс і Арра. На поўначы ад дарогі Пэррон-Камбрэ, пасьля чысьленых адбітых наступленьнёў, англічане павялі вялікую сілу на новые штурмы. Нашы войскі зрабілі ў іх зноў цяжкіе страты, а пасьля адыўшлі назад. На палудзенным заходзі ад С. Кантэн артылерыя ворагоў некалькі гадзін абстрэлівала пакінутые намі у начы пазыції, якіе пасьля бяз бітвы і заняла іх пяхота. Пры Вандрэс нашы батарэі ўзарвалі у ворагоў склад амуніціі. Трасеньне зямлі было чутно за 40 кілом. На поўначы ад Рэймсу мы зрабілі ворагам крывавые удары і ўзялі больш за 800 душ у палон.

**Усходні тэатр.**

*Фронт Леопольда Баварскаго:* На поўдні ад Рыгі нашы атрады ўварваліся на расейскіе пазыції і вярнуліся с палоннымі і дабычай. На поўдні ад Бродаў нашы дружыны ўзялі 41 палоннаго і 1 кулемёт.

*Фронт эрц-гэрцога Іозэфа:* Нічога выдатнаго.

*Фронт фэльдмаршалка Макензэна:* На правым беразі Сэрэта нашы патрулі ўзялі 30 палонных і 2 мінамёты.

*Македонскі фронт:* На заходзі ад Манастыра у французоў адабраны астаўшыеся пасьля апошніх бітв у іх руках акопы.

---

### З Расеі.

ШТОКГОЛЬМ. Як даносяць з веры годнай крыніцы, ў часі бунту ў балтыцкім флоце броненосец «Павал I» гэтак пацярпеў, што дзеля папраўкі яго трэба больш году. Матросы хацелі яго затапіць. У бітвах на паверсі яго забіты ўсе афіцэры.

С паміж ваенных параходаў, якіе стаяць каля Гэльсінгфорсу, сур'ёзна папсована «Полтава». Салдаты прабавалі на ей узарваць панцырны паверх. На броненосцы «Слава» машыністы зусім папсавалі катлы.

БЭРН. Паводлуг швэйцарскіх вестак, новы урад не зацьвярдзіў назначэньня Сазонова за пасла ў Лондон.

ПАРЫЖ. Румынскі генэрал Ільеску называе б. расейскаго міністра-прэзыдэнта Штырмэра вінавайцам нешчасьця Румыніі. Штырмэр пакінуў Румынію на ласку ворагоў і хацеў зрабіць з імі сэпаратны мір, за каторы заплаціла бы Румынія.

ШТОКГОЛЬМ. Ліхой славы манах Іліодор, вораг Распутіна, каторы цяпер знаходзіцца ў Амэрыцэ, паслаў у пецярбурскіе газэты тэлеграму, паведамляючы, што вертаецца ў Расею. Ен абецуе «утапіць імператарскую сям'ю ў расцаленых массах». Ен маніцца апублікаваць свае успаміны пад загалоўкам: «Сьвяты Сатана».

С-паміж арэштаваных дзеячоў старога ладу міністэр царскаго двара Фрэдэрыкс звар'яваў. Стары адмірал Картароў прабаваў налажыць на сябе рукі. За яго прыкладам пайшоў маршалак ваенна-марскога суда.

ПАРЫЖ. С Пецярбурга даносяць, што генэрал Алексеев аканчацельна назначэн за глаўнака мандуючаго і што яму дадзены вялікіе правы. Генэралу Лечыцкаму далі глаўную каманду на Румынскім фронці.

ШТОКГОЛЬМ. Асабісты ад'ютант цара, генэрал Воейков, каторы кажэ, што быўшый цар хацеў адкрыць перад немцамі расейскі фронт, робіць далейшые адкрыцьця і цяжка вінаваціць многа расейскіх афіцэроў. На моцы яго заяў ужо засуджэны і расстрэляны некалькі сот расейскіх афіцэроў.

### З АМЭРЫКІ.

АМСТЭРДАМ. Правіцельство ў Вашынгтоне забараніло рабіць якіе-колечы дэмонстраціі за мір.

ВАШЫНГТОН. Набор рэкрутоў ідзе поўным ходам. Многіе дамагаліся, каб некалькі дывізій было адпраўлено за морэ, але с прычыны адносін да Мэксыкі і грозьбы ўнутрэных разрухоў неасьцерожна былобы раздрабняць і без таго нячысьленую армію. Трэба думаць, што сперша толькі амэрыканскі дабравольны лятучы флот абернуць у амэрыканскую ваенную часць і павялічаць чысло дабравольцаў.

---

## На новай дарозі.

Жаданьне волі, жаданьне карыстаць з усяго таго дабра, якое творыцца працай многамільённых рабочых грамад, ад няпомных часоў паднімало народ проці тых, хто, карыстаючыся ці то сваей духовай перэвагай, ці то організованай сілай, ці вялікімі капіталамі, панаваў над народнымі массамі. У сусьветнай гісторыі гэтае змаганьне праходзіць чырвонай ніткай, толькі зменяюцца формы яго. Гэтак, у старые часы народные бунты выяўляліся ў тым, што паўстаўшый народ нішчыў панскіе двары і палацы, забіраў дабро і забіваў сваіх угнетацелёў, але ня ўмеў зьмяніць устанавіўшагося ладу. Цяпер там, дзе народ дапушчэн да ўласьці, ідзе змаганьне на другім грунці — у парляментах: массы працоўнаго народу стараюцца здабыць чым больш мейсц для сваіх дэпутатоў, каб іх голас меў належную вагу пры развязцы агульна-народных спраў, каб дзержаўная палітыка кіравалася да карысьці ўсіх жыхароў, да забаспечэньня ўсім роўных правоў і дабрабыту.

У Расеі, ня гледзячы на тое, што тамака ўжо дзесяць гадоў заседала дзержаўная дума, ўся ўласць, як і раней, аставалася ў руках цара і назначэных ім чыноўнікоў. Аб правох народу, аб яго дабрабыце гэтые «гаспадары» не клапаціліся: наадварот, ім было карысна, каб народ аставаўся цёмным, каб не патрапіў узяць уласць у свае рукі.

Але абмыліліся тые, хто думаў, што можна штучна недапусьціць сьвету да народу. Ня гледзячы на страшэнна цяжкі уціск, у народзі ўсё болей і болей будзілася грамадзкая сьведомасць, а страшэнная вайна, ў якую ўвела Расею царская палітыка, разбіла ў вачах народу астаткі тэй павагі, якую ешчэ меў расейскі монарх. І вось на нашых вачах работнікі і армія — «аружны народ» — скінулі царскае правіцельство, каб завясьці ў Расеі новы лад.

Рэволюція ў Расеі паказвае лішні раз, якую вагу ў жыцьці народаў маюць рабочые массы, калі яны добра організованы. Дагэтуль усе спробы разбіць самадзержаўны лад у Расеі неўдаваліся: тамака іх рабіла невялікая група рэволюцыйна настроенай інтэлігенціі, і толькі ў 1905 гаду першы раз папрабаваў выступіць народ. Але 1905 год скончыўся разгромам рэволюцыйных сіл. Затое цяперашняе выступленьне, дзякуючы лепшай організаціі, дайшло намечэнай мэты, і трэба думаць, што стары лад у Расеі ніколі ня вернецца.

Але расейскі пролетар'ят гэтай рэволюціей не развязаў да канца сваей справы: які-бы ні быў новы лад, пры ім рабочые массы прымушэны будуць крок за крокам адваёвываць сабе мейсцо ў дзержаўным жыцьці, каторае ўжо цяпер — ешчэ ў часі рэволюціі— пастараліся забраць у свае рукі прэдстаўнікі буржуазіі, заняўшы міністэрскіе крэслы. Ужо цяпер ідзе змаганьне між міністэрствам, зложэным з лібэралоў, і так-званым «рабочным» правіцельствам, зложэным с соцыялістоў. Яно пяройдзе і ў устаноўчы сэйм, і ў будучый расейскі парлямэнт.

Так, урэшці і ў Расейскай дзержаве змаганьне працоўнаго народу с панующымі экономічна клясамі пераходзіць на грунт парлямэнтарызму. Яно будзе вымагаць ужо ня толькі еднасьці і організації пролетар'яту, але і высокаго культурнаго пад'ёму. І на гэта апошняе работнікі будуць прымушэны скіраваць вялікую часць сваіх сіл, каб с-паміж сябе выдаць чым больш заступнікоў сваіх інтэрэсоў, здольных да таго, каб учасьцем у дзержаўным жыцьці змагацца за інтэрэсы пролетар'яту.

*Грамадзянін.*

---

## Вячорные мысьлі.

Хоць і цяжкая гэта сусьветная вайна, хоць і грозна, — ды ўсё ж паводлуг яе рэзультатоў можна назваць яе вайной асвабадзіцельнай і дэмократычнай. На палітычных трыбунах ва ўсіх дзержавах сказаны былі вялікіе словы ў абарону правоў малых народаў. І Нямеччына ўжо цяпер— перад канцом вайны—свае словы пачала абертаць у дзело. Мы бачым гэта у зраўнаваньні правоў

